№7(55)
Красавік 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"



# Беларусі быць незалежнай!..

Неадольнае імкненьне беларускіх уладаў у расійскія абдымкі паступова ператвараецца для іх у застарэлую хваробу, абвастрэньне якой чакаецца кожную вясну. Сіндром "яднаньня" чатыры гады запар абуджаўся ўвесну, накіроўваючы дэлегацыю за дэлегацыяй у бок Масквы, памнажаючы колькасьць падпісаных "дакументаў", якія ні адзін з бакоў да нічога не абавязвалі. На 2 красавіка, на дзень, калі А.Лукашэнка ў інтэграцыйным запале разьбіў келіх з гарэлкай у Крамлёўскай зале "за вечную дружбу", нават было прызначанае двухдзяржаўнае сьвята пад назовам "Дзень яднаньня рускага і беларускага народаў". Усе папярэднія гады дзень гэты азначаўся ўрачыстымі прамовамі, канцэртамі "майстроў мастацтваў" ды шумнымі застольлямі чальцоў "бліжняга кола". Сёлета ж на афіцыйным узроўні "сьвята яднаньня" прайшло сьціпла, амаль непрыкметна. І прычына гэтага можа быць адна: разьвітаньне (як мінімум на чатыры гады, а дакладней — назаўсёды) А.Лукашэнкі з марай (і мэтай!) заняць маскоўскі

*(Працяг на стар. 3)*





**На здымках: Мінск, 2 красавіка 2000 году.**

## Хроніка

***6 красавіка*** **ў Ленінскім раённым судзе гораду Гродна быў вынесены прысуд Сяргею Мальчыку, які кіруе мясцовай філіяй Праваабарончага цэнтру "Вясна". Яго абвінавацілі ў "арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця" на Дзень Волі 25 сакавіка. С. Мальчык сваёй віны не прызнаў і лічыць свае дзеяньні законнымі. Суд пакараў Мальчыка на 10 сутак зьняволеньня. Адразу пасьля вынясеньня прысуду С. Мальчык у знак пратэсту абвясьціў галадоўку.**

***7 красавіка*** **кіраўніцтва мінскай міліцыі папрасіла прабачэньня ў журналістаў за незаконныя затрыманьні 25 сакавіка. Прадстаўнікі кіраўніцтва ГУУС г. Мінску падкрэсьлілі, што з самага пачатку супрацоўнікі міліцыі былі за тое, каб дазволіць дэманстрантам прайсьці з плошчы Якуба Коласа да плошчы Бангалор. Яны сьцьвярджалі, што ГУУС Мінгарвыканкаму было супраць жорсткага вырашэньня канфліктнай сітуацыі, якая склалася 25 сакавіка. Адзін з удзельнікаў размовы заявіў: "Калі б на плошчы Якуба Коласа апынуўся я ў цывільным, мяне б таксама маглі арыштаваць. А калі б я пачаў супраціўляцца, дык таксама атрымаў бы па нырках". Як высьветлілася, 25 сакавіка на плошчы Якуба Коласа было затрымана некалькі супрацоўнікаў КДБ у цывільным. Выказваліся думкі, што падзеі 25 сакавіка былі справакаваныя некаторымі чыноўнікамі для таго, каб дыскрэдытаваць уладу. Прагучала слова "правакацыя". Цяпер вінаватых шукаюць сярод кіраўніцтва сілавых структураў і Савету бясьпекі. На сустрэчы прысутнічала ўсяго чатыры карэспандэнты, хоць затрыманых было больш за 30.**

*(Працяг на стар.6-7)*

## Барыс ГЮНТЭР:

# "Вінаватым сябе не лічу"

*У судзе Савецкага раёну г. Мінску пачаўся працэс па пераглядзе адміністратыўнай справы сябра Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Барыса Гюнтэра, асуджанага летась як арганізатара "Маршу Свабоды-1"*

13 красавіка ў будынку суда Савецкага раёну г. Мінску пачаўся працэс па перагляздзе адміністратыўнай справы сябра Праваабарончага Цэнтру "Вясна", дэпутата Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Барыса Гюнтэра. Нагадаем, што 18 кастрычніка 1999 году ён быў абвінавачаны ў тым, што зьяўляўся адным з арганізатараў "Маршу Свабоды-1" і не прыняў належных мераў дзеля захаваньня грамадзкага парадку падчас правядзеньня "Маршу...". Б. Гюнтэр быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасьці па арт.167.1 ч.2 КаАП РБ (арганізацыя несанкцыянаванага шэсьця). Судзьдзя Р. Казадаеў вынес тады Б. Гюнтэру адміністратыўнае спагнаньне ў выглядзе арышту на тэрмін 15 сутак. Прычым падчас разгляду справы судзьдзя Р. Казадаеў дапусьціў шэраг парушэньняў патрабаваньняў закону, сярод якіх была адмова ў задавальненьні хадайніцтва Б. Гюнтэра пра ўдзел у працэсе адваката. Падчас знаходжаньня ў сьпецпрыёмнікуразьмеркавальніку Б. Гюнтэр падаў скаргу на імя старшыні Мінскага гарадзкога суда. Але скарга была не задаволеная, і пастанова суда Савецкага раёну была пакінутая бяз зьменаў. Аднак Б.Гюнтэр абскардзіў пастанову суда Савецкага раёну ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь, які неўзабаве адмяніў гэтае рашэньне і накіраваў справу на новы разгляд у суд Савецкага раёну іншаму судзьдзі.

На гэты раз справу разглядала судзьдзя Аксана Рэлява. Прадстаўніком Б. Гюнтэра выступаў вядомы ў Беларусі адвакат, намесьнік старшыні БХК — Гары Паганяйла.

У сваёй прамове Б.Гюнтэр падкрэсьліў, што вінаватым сябе не прызнае і патлумачыў суду сваю пазіцыю. У прыватнасьці, ён адзначыў, што выканаў усе ўзятыя на сябе абавязацельствы падчас правядзеньня санкцыянаванага мітынгу на плошчы Бангалор. Паводле Закону Рэспублікі Беларусь "Аб сходах, дэманстрацыях, мітынгах, шэсьцях і пікетаваньні", ён, як арганізатар, абавязаны быў прысутнічаць падчас правядзеньня мерапрыемства і забясьпечваць грамадзкі парадак. Гэта і было зроблена. Таксама адзначалася, што плошча Бангалор і так званы парк Дружбы народаў (пляцоўка для выгулу сабак) не прыстасаваныя для правядзеньня такіх масавых па колькасьці ўдзельнікаў мерапрыемстваў, як было гэта 17 кастрычніка мінулага году, і разьехацца дамоў адразу па заканчэньні акцыі тысячам людзей не ўяўлялася магчымым. Па словах Б. Гюнтэра, усю адказнасьць за далейшае разьвіцьцё падзеяў на вуліцах Мінску нясуць гарадзкія ўлады і органы МУС.

У якасьці сьведкаў выступілі супрацоўнікі АЭЗ (Аддзелу па эканамічнай злачыннасьці) Савецкага РАУС г. Мінску Дзьмітрый Юхновіч і Яўген Сарока. На пытаньне прадстаўніка Б.Гюнтэра, ці былі выяўленыя парушэньні грамадзкага парадку падчас правядзеньня мітынгу на плошчы Бангалор, Дз. Юхновіч сказаў, што арганізатары і ўдзельнікі мітынгу выкрыквалі антыдзяржаўныя і антыпрэзідэнцкія лозунгі, а таксама лозунгі, накіраваныя супраць дзяржаўнага ладу краіны (?). Таксама Д. Юхновіч засьведчыў суду, што бачыў Б. Гюнтэра сярод удзельнікаў несанкцыяна-

---

# Падставы, відавочна, палітычныя...

*Міністэрства юстыцыі Беларусі перанесла рэгістрацыю грамадзкага аб'яднаньня Рабочы саюз «Единство» Сяргея **АНТОНЧЫКА** паводле надуманых прычынаў...*

Падзеі разгортваліся наступным чынам. 16 сакавіка старшыня грамадзкага аб'яднаньня Рабочы Саюз «Единство» Сяргей Антончык падаў у Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь дакументы на рэгістрацыю створанага грамадзкага аб'яднаньня.

11 красавіка начальнік упраўленьня грамадзкіх аб'яднаньняў Міністэрства юстыцыі М.Сухінін адтэрмінаваў, перанёс рэгістрацыю аб'яднаньня, а фактычна адмовіў у ёй.

У дакуменце, які так і называецца: «Аб адтэрміноўцы рэгістрацыі», М.Сухінін паведаміў заяўляльніку, што «рашэньне аб рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня Рабочы Саюз «Яднаньне»(!) ня можа быць прынятае, бо назва аб'яднаньня не адпавядае артыкулу 121 Грамадзянскага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Яшчэ адным аргументам, які служыць, па меркаваньні Сухініна, падставаю для адмовы ў рэгістрацыі Рабочага Саюзу «Единство», служыць супярэчлівасьць тэксту Статуту, у прыватнасьці, «п.4.1 супярэчыць п.6.1».

Тое, на чым грунтуецца адтэрміноўка ў рэгістрацыі аб'яднаньня, ёсьць ня толькі яскравае сьведчаньне непрыхаванага жаданьня чыноўнікаў Міністэрства юстыцыі РБ знайсьці прычыны дзеля адмовы, але і іх узроўню адукаванасьці. Мяркуйце самі. Дакументы былі пададзеныя С. Антончыкам на рускай мове, а адказ Сухінін даў па-беларуску. Здавалася б, такое стаўленьне да роднай мовы трэба было толькі вітаць, але... слова «Единство» Сухінін пераклаў на беларускую мову як «Яднаньне», што па-руску азначае «Объединение». Такім чынам адказ чыноўніка Мінюсту дадзены не Рабочаму саюзу С.Антончыка, а неіснуючай арганізацыі – грамадзкаму аб'яднаньню... «Объединение».

Можна было б меркаваць, што адказ быў дадзены не арганізацыі, лідэрам якой абралі Антончыка, а нейкай іншай і памылкова патрапіў да Сяргея Антонавіча. І, магчыма, гэта было б праўдай, калі б адмова не была ўручаная асабіста С.Антончыку, за што ён і распісаўся.

Аналіз другога аргументу Мінюсту таксама выклікае падазрэньні наконт узроўню кампетэнцыі чыноўнікаў. Так у п. 4.1 Статуту «Единства» пішацца: «ОО РСЕ цельное, без территориальных структур» — тут ідзе гаворка пра структуру арганізацыі. А ў п.6.1 ідзе гаворка аб прыпыненьні дзейнасьці саюзу і яго рэарганізацыі. Зноў цытую: «ОО РСЕ может быть реорганизовано по решению Собрания, если за это проголосовали более 2/3 присутствующих». Такім чынам зьмест гэтых артыкулаў ніяк не можа супярэчыць адзін аднаму паводле элементарнай логікі.

Дарэчы, у адпаведнасьці з законам Рэспублікі Беларусь аб грамадзкіх аб'яднаньнях у арт.14. «Адтэрміноўка ў рэгістрацыі» сказана: «Рэгістрацыя можа быць адкладзеная на тэрмін да трох месяцаў, калі парушаны парадак стварэньня грамадзкіх аб'яднаньняў, які прадугледжаны гэтым законам...» Аднак у дакуменце, які атрымаў С.Антончык у Мінюсьце, матывы адтэрміноўкі, што прадугледжаныя законам, не указваюцца.

Чытачам, пэўна, будзе цікава даведацца, што падчас арганізацыі Рабочага саюзу ўлады шмат зрабілі, каб потым мець падставу не рэгістраваць «Единство» С.Антончыка. Да прыкладу, рабочыя і беспрацоўныя вырашылі правесьці арганізацыйны сход у гатэлі «Сьвіслач», падалі на гэты конт заяву кіраўніцтву гатэля ды аплацілі кошт арэнды залы. Аднак, калі яны прыйшлі ў прызначаны дзень — 20 лютага — у гатэль, дык атрымалі, як кажуць, ад варот паварот. Дзяжурны сказаў ім, што галоўны інжынер гатэлю забараніў уваход у залу "па тэхнічных прычынах".

Супрацоўнікі гатэлю пад сакрэтам паведамілі, што напярэдадні сходу галоўнага інжынера выклікалі ў гарвыканкам і правялі з ім размову. Аднак С.Антончык палітык вопытны і такі ход адміністрацыі і гарадзкіх

 





ванага шэсьця, якое рухалася ад плошчы Бангалор у бок цэнтру гораду. Прычым паўтарыць лозунгі ў судзе сьведка катэгарычна адмовіўся. Прыкладна тое ж засьведчыў і другі сьведка Яўген Сарока, які сьцьвярджаў, што бачыў Б.Гюнтэра сярод затрыманых удзельнікаў несанкцыянаванага шэсьця, у той час як у сапраўднасьці абвінавачваемы сам 18 кастрычніка зьявіўся па позве ў РАУС Савецкага раёну, адкуль быў дастаўлены ў суд. На пытаньне Гары Паганяйлы, чаму ў рапартах і ў пратаколе папярэдняга судовага паседжаньня яны нічога не гавораць пра ўдзел Б.Гюнтэра ў шэсьці, Д.Юхновіч і Я.Сарока адказалі, што падзеі адбываліся даўно, і яны дакладна не памятаюць. Гэтым яны пацьвердзілі свае паказаньні, дадзеныя імі на папярэднім судовым працэсе. Пры такіх абставінах, па прычыне разыходжаньняў у паказаньнях сьведкаў, судзьдзя А.Рэлява перанесла разгляд справы на 20 красавіка ў сувязі з неабходнасьцю прагляду відэаматэрыялаў.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

---

уладаў прадугледзеў, падрыхтаваўшы "запасную залу", дзе і правёў арганізацыйны сход.

Сапраўдныя прычыны адтэрміноўкі рэгістрацыі РС «Единство» С.Антончыка відавочныя, і для тых, хто сочыць за разьвіцьцём падзеяў у Беларусі, абсалютна зразумелыя і прагназаваныя. Справа найперш у асобе самога старшыні «Единства» С.Антончыка, які ненавісны сёньняшнім беларускім уладам. Яшчэ некалькі гадоў таму ён — рабочы заводу, дэпутат Вярхоўнага Савету 12 скліканьня — з парламенцкай трыбуны прачытаў даклад пра карупцыю ў камандзе тады прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі. Буйнейшыя дзяржаўныя газеты, у якіх павінен быў друкавацца гэты даклад, выйшлі з белымі плямамі на старонках — так спрацавала "цэнзура".

З таго часу паступова ўсе, хто згадваўся ў тым дакладзе, пайшлі ў адстаўку. Пры рэальнай уладзе застаўся толькі адзін з названых некалі Сяргеем Антончыкам карупцыянераў — нелегітымны прэзідэнт Беларусі. Новы выхад Сяргея Антончыка на палітычную арэну наўрад ці будзе яму даспадобы.

**Уладзімір ПАДГОЛ.**

# Перастрахаваліся

3 красавіка ў Праваабарончы Цэнтр "Вясна" зьвярнуўся дыякан царквы "Благадаць" г.Горкі Магілёўскай вобласьці Пётр Пятровіч Маланачкін. У сваёй заяве ён напісаў:

"2.04. 2000 г. у 11.45 на ўваходзе ў парк імя Я.Купалы мяне спыніў чалавек у форме міліцыі з мэтай праверкі дакументаў і загорнутых у паперу плакатаў, якія я нёс. Пасьля праверкі ён перадаў мяне невядомым людзям ў цывільным адзеньні, якія завезьлі ў РАУС, дзе мяне без прычыны пратрымалі каля 2 гадзінаў. Калі мяне прывезьлі на месца майго затрыманьня, я ўбачыў, што мой аўтамабіль ускрыты і ў яго праколатае кола. А плакаты людзі ў цывільным зьвезьлі ў невядомым мне накірунку. Прашу гэты факт нахабнасьці і беззаконьня зрабіць здабыткам галоснасьці".

Заява П.П.Маланачкіна патрабуе невялікага каментару. Справа ў тым, што 2 красавіка ў Мінску грамадзяне сабраліся ў парку імя Янкі Купалы, каб ускласьці кветкі да помніку песьняру і справіць імшу ў гонар патрыётаў, што загінулі, абараняючы незалежнасьць Беларусі. На акцыю былі запрошаныя сьвятары асноўных канфесіяў Беларусі.

Калі да парку падыходзіў спадар Маланачкін, трымаючы ў руках тэксты псалмаў, яго затрымалі міліцыянты і даставілі ў гарадзкі аддзел міліцыі. Міліцыянты думалі, што Маланачкін нёс улёткі.

У пастарунку, разабраўшыся, што за тэксты яны "арыштавалі", П.Маланачкіна адпусьцілі. Аднак у выніку, тыя, хто сабраўся каля помніку Янку Купалу, не атрымалі псалмаў і таму не змаглі ўзяць актыўны ўдзел у імшы разам са сьвятарамі.

Выступаючы па дзяржаўным тэлебачаньні, намесьнік мэра Мінску камуніст В.Чыкін заявіў, што ніякіх правапарушэньняў падчас акцыі 2 красавіка не было. Так, з боку ўдзельнікаў мерапрыемства не было, але правапарушальнікам зноў выступіла мінская міліцыя.

---

# Беларусі быць незалежнай!...

*(Пачатак на стар. 1)*

прастол. Справа ў тым, што прэзідэнцкія выбары, якія за тыдзень да таго прайшлі ў Расіі, зацьвердзілі пераканаўчую перамогу на іх Уладзіміра Пуціна. І тут хочаш ня хочаш, а згадаеш старажытных рымлянаў, якія казалі: "Лепш быць першым у правінцыі, чым другім у сталіцы". Дык навошта тады сваю сталіцу ператвараць у чужую правінцыю...

2 красавіка традыцыйна праводзіць свае акцыі пратэсту супраць інкарпарацыі Беларусі Расіяй і беларуская апазіцыя. Сёлета гэты дзень было вырашана адзначыць чыста сімвалічна, як Дзень памяці беларусаў, што загінулі за незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны. У парку каля помніку народнаму песьняру Янку Купалу сабралася каля тысячы менчукоў. У памяць продкаў-герояў былі



запаленыя сьвечкі, а сьвятары асноўных канфесіяў Беларусі правялі памінальную імшу. Супрацоўнікі міліцыі, якія "вызначыліся" 25 сакавіка, у гэты дзень паводзілі сябе спакойна і было іх няшмат. А таму акцыя, у адрозьненьне ад папярэдніх гадоў, калі на вуліцах Мінску праводзіліся масавыя затрыманьні і лілася нават кроў, гэтым разам прайшла амаль без эксцэсаў.

**Андрэй НАЛІВА.**

---

# Дзіўны падзел на "сваіх" і "чужых"

***ЗВАРОТ да журналістаў, якія працуюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь***

Да гэтага часу Беларуская асацыяцыя журналістаў не атрымлівала ад міністэрства ўнутраных справаў РБ вынікаў расьсьледаваньня падзеяў, якія мелі месца 25 сакавіка 2000 году ў Мінску па факце масавых затрыманьняў журналістаў і прымяненьня да іх грубай фізічнай сілы супрацоўнікамі органаў правапарадку. У той жа час, МУС прынёс прабачэньне расійскім журналістам. Тым самым у чарговы раз праведзены фактычны падзел журналісцкага корпусу на дзьве катэгорыі. Большай часткі пацярпелых — беларускім журналістам — прабачэньні да гэтага часу не прынесеныя, а вінаватыя — супрацоўнікі сілавых структураў — не пакараныя.

Абараняючы сваё канстытуцыйнае права свабодна зьбіраць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю, Беларуская асацыяцыя журналістаў вымушаная зьвярнуцца да ўсіх калегаў, якія працуюць у Рэспубліцы Беларусь, з заклікам спыніць асьвятленьне штодзённай дзейнасьці праваахоўных органаў да часу прыцягненьня да адказнасьці вінаватых у абуральным выпадку 25 сакавіка ў Мінску.

**Кіраўніцтва Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

*12 красавіка 2000 году.*



 

# Суды і прысуды

## У Мінску працягваюцца судовыя працэсы над грамадзянамі, якія былі затрыманыя 25 сакавіка на Дзень Волі

**3 красавіка** ў судзе Савецкага раёну г. Мінску судзьдзі Аксана Рэлява, Руслан Казадаеў і Іна Шэйка разгледзелі адміністратыўныя справы над затрыманымі 25 сакавіка і вынесьлі наступныя рашэньні:

1. *Кардаш Яўген* – апраўданы;
2. *Бурдыка Уладзімір* – суд перанесены на 10 красавіка.
3. *Шахоўскі Аляксей* – папярэджаньне.
4. *Шэчка Сяргей* – папярэджаньне.
5. *Картэль Ігар* – папярэджаньне.
6. *Яўмененка Мікола* – суд перанесены на 5 красавіка.




**4 красавіка** ў судзе Савецкага раёну судзьдзя Аксана Рэлява разглядала справу намесьніка Старшыні Вярхоўнага Савету 13 скліканьня *Анатоля Лябедзькі*.

А.Лябедзьку затрымалі разам з журналістам А.Тамковічам 25 сакавіка за 15 хвілінаў да пачатку мітынгу — у 11.45 — прыблізна ў кіламетры ад плошчы Якуба Коласа трое ў цывільным. Пры гэтым людзі ў цывільным адмовіліся выканаць просьбу-патрабаваньне А.Лябедзькі паказаць свае пасьведчаньні. А ў адказ на прапанову прайсьці ў разьмешчанае непадалёк аддзяленьне міліцыі, пачалі заломваць рукі і цягнуць у машыну. Толькі калі да "цывільных" прыбеглі на дапамогу міліцыянты ў форме, А.Лябедзька і А.Тамковіч зразумелі, што іх затрымліваюць прадстаўнікі карных органаў улады. Інакш "затрыманьне" нагадвала тое, што адбывалася год таму з Ю.Захаранкам, а ўвосень мінулага году — з В.Ганчаром і А.Красоўскім, месца знаходжаньня якіх невядома па сёньня. Тым болей, што ў размовах-запытаньнях кшталту "Хто наступны?", што раз-пораз узьнікаюць у беларускай прэсе, найчасьцей згадваецца якраз імя А.Лябедзькі... Затрыманага віцэ-сьпікера даставілі ў вайсковую частку па вул.Маякоўскага. Там яго пратрымалі да вечара, а затым разам з іншымі арыштаванымі адвезьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна.

Нагадаем, што судовы разгляд справы А.Лябедзькі пачаўся 27 сакавіка, але быў перанесены на 4 красавіка.

На судзе 4 красавіка прысутнічалі журналісты з асноўных расійскіх тэлеканалаў, а таксама пасол ЗША Д.Сьпекхард і прадстаўнікі іншых амбасадаў, разьмешчаных у Мінску. Міліцыянты, што прыйшлі ў суд у якасьці сьведкаў, на пытаньне судзьдзі, што яны могуць сказаць пра правапарушэньне Лябедзькі, заявілі, што нічога ня бачылі, нічога ня ведаюць, нічога ня памятаюць. Судзьдзя А. Рэлява апраўдала Анатоля Лябедзьку.

Цяпер віцэ-сьпікер можа падаць у пракуратуру заяву на тых, хто безпадстаўна затрымліваў яго, а таксама ў суд на тых людзей, якія абразілі ягоны гонар і годнасьць.

4 красавіка апраўдальным рашэньнем скончыўся разгляд адміністратыўнай справы *Віктара Івашкевіча*, намесьніка старшыні БНФ, рэдактара незалежнай газеты "Рабочы".

У гэты ж дзень былі вынесеныя наступныя судовыя рашэньні:

1. *Іллюкевіч Уладзімір* – апраўданы.
2. *Лемеш Яўген* – апраўданы.
3. *Рабкавец Анатоль* – штраф 44 тыс. рублёў.
4. *Гуніч Зьміцер* – штраф 44 тыс. рублёў.
5. *Вяроўкін Уладзімір* – апраўданы.
6. *Кухаронак Аляксей* – папярэджаньне.

**5 красавіка** ў Савецкім судзе г.Мінску працягваліся суды над затрыманымі 25 сакавіка.

*Працяг. Пачатак паведамленьняў пра суды над грамадзянамі, якія былі затрыманыя 25 сакавіка, чытайце ў №6 (54).*


**На здымках: Мінск, 25 сакавіка 2000 году.**

Судзьдзя Руслан Казадаеў, (адвакат Вера Страмкоўская) разгледзеў справу *Міколы Яўмененкі* і спыніў справу па прычыне адсутнасьці складу правапарушэньня. Варта адзначыць, што з 25 па 27 сакавіка М.Яўмененка знаходзіўся за кратамі ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку на вул. Акрэсьціна ў Мінску.

Судзьдзя Аксана Рэлява (адвакат Натальля Тарасюк) разгледзела справу *Аляксандра Чахольскага*. А.Чахольскі быў моцна зьбіты вайскоўцамі ўнутраных войскаў пры затрыманьні на прасьпекце Скарыны. А.Чахольскі вымушаны быў зьняць пабоі 30 сакавіка ў судовай экспертызе. З 25 па 27 сакавіка А.Чахольскі знаходзіўся за кратамі ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку на вул.Акрэсьціна.

На судзе ў якасьці сьведкаў выступалі супрацоўнікі міліцыі Сяргей Раманоўскі (1979 г.н.) і Юры Валадзько (1979 г.н), якія ілжыва сьведчылі, што менавіта яны затрымлівалі А.Чахольскага, які "выкрыкваў супраць прэзідэнта". Сьведка Ю.Валадзько сказаў: "Было вельмі шмат людзей, якія парушалі грамадзкі парадак, вось іх і затрымлівалі. Затрымалі чалавек восем-дзевяць мужчынаў. Жанчынаў я ня браў". Калі адвакат папярэдзіла "сьведкаў", што А.Чахольскі зьняў пабоі і зьвярнуўся ў пракуратуру, дык яны пачалі сумнявацца: ці сапраўды яны затрымлівалі Чахольскага. Ю.Валадзько сказаў, што ўпершыню ўбачыў А.Чахольскага ў Савецкім РАУС, калі складалі пратакол. У выніку разгляд справы А.Чахольскага быў перанесены.

**10 красавіка** ў судзе Савецкага раёну г.Мінску адбыліся судовыя разгляды дзьвюх адміністратыўных справаў.

Судзьдзя Іна Шэйка разгледзела адміністратыўную справу *Уладзіміра Жывіцы*, які абвінавачваўся ў парушэньні арт. 167.1 КаАП РБ (парушэньне парадку правядзеньня мітынгаў, шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня), і вынесла яму па-пярэджаньне.

Судзьдзя Руслан Казадаеў, разгледзеўшы матэрыялы справы *Уладзіміра Бурдыкі*, прызнаў яго вінаватым у парушэньні арт. 167.1 КаАП РБ і таксама вынес папярэджаньне абвінавачваемаму.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# "Канвеер" у дзеяньні

## На судовых паседжаньнях сьведкі-міліцыянты блыталіся ў паказаньнях, аднак судзьдзі верылі найперш ім...



Праваабарончы Цэнтр "Вясна" адсочваў усе суды, якія адбыліся ў Мінску над затрыманымі 25 сакавіка падчас сьвяткаваньня Дня Волі. Праз жорны судовай улады прайшло больш за шэсьцьдзесят грамадзянаў Рэспублікі Беларусь. Грамадзкія абаронцы і назіральнікі ад "Вясны" прысутнічалі на большасьці судовых паседжаньняў. Паводле іх высноваў сёлетнія суды былі адрознымі ад тых, што адбываліся над затрыманымі падчас акцыяў апазіцыі грамадзянамі ў папярэднія гады. Па-першае, было апраўдана адразу 17 чалавек. Такога раней не бывала: судзьдзі выносілі звычайна жорсткія прысуды. Зрэшты, трэба было апраўдаць усіх затрыманых 25 сакавіка. Бо ў месцах арыштаў — на прасьпекце Скарыны, на вуліцах В.Харужай і Варвашэні — не было ні мітынгу, ні шэсьця. Людзей бралі проста на вуліцы, асабліва не разьбіраючыся, кіруецца чалавек да месца акцыі апазіцыі альбо сьпяшае па сваіх справах. Усіх затрыманых судзілі па арт. 167.1 ч.1 за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня шэсьцяў, мітынгаў, дэманстрацый і пікетаваньняў. Абвінавачаньні былі стандартныя, і разгляд справаў быў пастаўлены на своеасаблівы канвеер.


Плошча Якуба Коласа 25 сакавіка...

Міліцыянты, якія "ахоўвалі грамадзкі парадак" 25 сакавіка, дзяліліся на розныя функцыянальныя групы: захопу, суправаджэньня і напісаньня рапартаў і пратаколаў. Таму на судах высьветлілася, што тыя, хто пісаў рапарты, на самой справе ня ведалі, што канкрэтна неправамоцнае рабілі "парушальнікі грамадзкага парадку". На судах сьведкі-міліцыянты ўпарта сьцьвярджалі, што менавіта яны затрымлівалі парушальнікаў. Калі ж высьвятлялася, што людзі былі моцна зьбітыя пры затрыманьні, зьнялі пабоі ў судова-медыцынскай экспертызе і зьбіраюцца прад'явіць зыск да асобаў, якія іх зьбівалі менавіта пры арышце, міліцыянты губляліся і гаварылі, што дакладна не памятаюць, ці яны затрымлівалі гэтага чалавека, бо ў той дзень рабілі па 10-15 затрыманьняў.

Часам у пратаколах былі запісаныя адны месца і час затрыманьня, а сьведкі на працэсе гаварылі пра іншыя. Сьведка-міліцыянт Валянцін Шыманскі, наогул, дагаварыўся да таго, што ён затрымліваў людзей на вуліцы Варвашэні толькі таму, што там знаходзіцца "штаб БНФ", а быў атрыманы загад затрымліваць усіх, хто выходзіў са "штабу". Толькі ў рапартах міліцыянты чамусьці пісалі, што затрыманьне адбылося па адрасе прасьпект Скарыны, 54. Блытаніна ў паказаньнях сьведкаў дазволіла абаронцам даказаць неабходнасьць закрыцьця падобных адміністратыўных справаў па прычыне адсутнасьці правапарушэньняў.

Шэсьць адміністратыўных справаў было адпраўлена ў Савецкі РАУС на дасьледваньне і адпаведнае афармленьне дакументаў. Бо ў рапартах і пратаколах былі выпраўленьні. Незразумелым для суда, скажам, быў такі выпадак: чым грамадзянін парушыў грамадзкі парадак, калі ішоў па прасьпекце Скарыны далёка ад пл.Я.Коласа і нёс у пакеце акуратна складзены бел-чырвона-белы сьцяг? Падставай для затрыманьня, аказваецца, было тое, што гэты чалавек размаўляў па-беларуску. Ня любяць нашыя "ахоўнікі парадку" беларускую мову... Дзіўна і тое, што, як сьведчаць пратаколы, усе беларускамоўныя грамадзяне лаяліся на вуліцы "расійскім матам". Старшы лейтэнант унутраных войскаў Андрэй Федзянін заявіў на судзе, што ён не разумее беларускую мову, бо сам рускі. Хоць ягоны абавязак як служачага ведаць дзяржаўную мову сваёй краіны.

Самыя жорсткія прысуды былі вынесеныя ў першы судовы дзень 27 сакавіка. Па трое сутак арышту атрымалі Алесь Пагарцаў і Алесь Бондараў, пяць — Міхаіл Гладухаў. Выключэньнем зьяўляецца і 10-суткавы арышт намесьніка старшыні БНФ "Адраджэньне" Вячаслава Сіўчыка. Дарэчы, за гэтыя дзесяць сутак В.Сіўчыка вымусілі зьмяніць ажно пяць камераў. Чацьвёра сутак ён прасядзеў у камеры, дзе была выбітая шыба, а на вуліцы было холадна, ішоў сьнег. У камеры побач з В.Сіўчыкам знаходзіліся людзі, хворыя на сухоты, а апошнюю ноч ён правёў у камеры, дзе зрабілі дэзінфекцыю. Прычым рабілі яе ў прысутнасьці зьняволеных, і яны вымушаныя былі дыхаць атручаным паветрам.

На судовых паседжаньнях, як заўсёды, судзьдзі аддавалі перавагу сьведчаньням міліцыянтаў. Да прыкладу, Анатоля Рабкаўца і Зьміцера Гуніча забралі на вул. Варвашэні, што пацьвердзілі іх сьведкі, а таксама прагляд апаратынага відзазапісу. Аднак міліцыянты, якія іх затрымлівалі, сьцьвярджалі, што арыштавалі на плошчы Якуба Коласа. І суд вынес рашэньне аштрафаваць А.Рабкаўца і В.Гуніча на 44 тысячы рублёў кожнага.

У судовых працэсах прымалі ўдзел у якасьці грамадзкіх абаронцаў прадстаўнікі ПЦ "Вясна". У многім дзякуючы іх кваліфікаванай дапамозе і абароне большая частка затрыманых і асуджаных грамадзянаў атрымала мінімальны прысуд: папярэджаньне. Але суд ёсьць суд. І таму, калі гэтыя людзі будуць затрыманыя на працягу году яшчэ раз, дык наступнае судовае пакараньне будзе значна больш суровым.

**Леанарда КАТКОВІЧ.**

# Падзеі Факты Каментары

*(Пачатак на стар. 1)*

*8 красавіка* газета "Народная воля" надрукавала зварот да Урадаў дэмакратычных краінаў ад жанчынаў — маці і жонак тых, каго перасьледуе рэжым. У звароце сказана: "Дзень Волі рэжым ператварыў у дзень жаху, дэманструючы сваю нянавісьць да дэмакратыі, свабоды правоў чалавека. Мы, маці і жонкі тых, каго перасьледуе рэжым, выступаем у абарону ня толькі сваіх родных і блізкіх. Мы спачуваем і шкадуем гэткіх жа шматпакутных маці і жонак вайскоўцаў і міліцыянтаў, якіх дзікая ўлада прымушае парушаць хрысьціянскія нормы маралі, зьдзекавацца з жанчынаў і старых, пе-ратварацца ў катаў уласнага народу".

*10 красавіка* арганізатары "Чарнобыльскага шляху-2000" (восемдзесят два чалавекі) падалі заяўку ў Мінгарвыканкам на правядзеньне ў дзень 14-й гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС шэсьця і мітынгу. Мяркуецца, што ўдзельнікі шэсьця зьбяруцца на плошчы Якуба Коласа і пройдуць па прасьпекце Скарыны да плошчы Незалежнасьці, дзе і адбудзецца мітынг. Ёсьць падставы меркаваць, што ўлады будуць супраць гэткага сцэнару і акцыю не дазволяць. А значыць, ёсьць падставы меркаваць, 26 красавіка "гарачая вясна" можа папоўніцца яшчэ адным "гарачым" днём.

*11 красавіка* ў Бабруйску (Магілёўская вобласьць) у судзе Ленінскага раёну гораду распачаўся судовы працэс над трыма з чатырнаццаці затрыманых тут 25 сакавіка ўдзельнікаў акцыі, прысьвечанай 82-й гадавіне БНР. Алесь Чыгір, Вячаслаў Сьвізуноў і Юры Кісьляк абвінавачваюцца ў парушэньні "знакамітага" артыкула КаАП РБ аб правядзеньні мітынгаў, пікетаваньняў, дэманстрацыяў і шэсьцяў.

*11 красавіка* ў судзе Першамайскага раёну г. Віцебску судзьдзя Зазуля разглядзела адміністратыўную справу сябра "Маладога Фронту" Юрася Землякова, якога абвінавацілі ў парушэньні арт. 156 КаАП РБ за тое, што ён зрабіў некалькі надпісаў фарбай на плоце маслазаводу г. Віцебску 16 лютага 2000 года. Судзьдзя без тлумачэньняў прычынаў адхіліла хадайніцтва Ю.Землякова аб дапушчэньні да працэсу ў якасьці грамадзкага абаронцы прадстаўніка БНФ "Адраджэньне". Суд прыняў рашэньне аштрафаваць Ю.Землякова на 2200 рублёў.




*6 красавіка на Маскоўскіх могілках у Мінску была ўшанаваная памяць вядомага палітыка, першага старшыні Нацыянальнага выканаўчага камітэту, аднаго з самых аўтарытэтных дзеячаў апазіцыі Генадзя Карпенкі. Год таму ён памёр пры абставінах, якія дагэтуль дазваляюць выказваць меркаваньні пра тое, што да ягонай раптоўнай сьмерці меў дачыненьне існуючы сёньня на Беларусі рэжым...*

*11 красавіка* А.Лукашэнка выступіў перад дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў і членамі Савету Рэспублікі са штогадовым пасланьнем. Ягонае выступленьне транслявалася ў прамым эфіры беларускіх радыё і тэлебачаньня. Пасьля выступленьня А.Лукашэнка адказваў на пытаньні прысутных. Намесьнік старшыні камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Палаты прадстаўнікоў Аляксандр Шпілеўскі пацікавіўся поглядам А.Лукашэнкі на магчымае абмежаваньне кантактаў з міжнароднымі арганізацыямі, якія не прызнаюць новай беларускай Канстытуцыі. А.Лукашэнка растлумачыў, што паводле яго назіраньняў, заходнія палітыкі зараз ужо не ўздымаюць пытаньняў аб неправамоцнасьці рэферэндуму 1999 г. і новай Канстытуцыі: "Захад, захаваўшы свой твар, адышоў ад гэтых патрабаваньняў". А.Лукашэнка заявіў, што праводзіць палітыку, якая не адпавядае інтарэсам Захаду, але, што тычыцца міжнародных арганізацыяў, то "абмежаваць іх дзейнасьць нельга. І хоць ў асобных выпадках яны пераступаюць рысу, у цэлым да недазволенай дзейнасьці яны не дайшлі". Але самая галоўная прычына, па якой А.Лукашэнка лічыць немагчымым далейшае пагаршэньне адносінаў з міжнароднымі арганізацыямі — маючыя адбыцца выбары. "Нам трэба правесьці парламенцкія выбары, каб камар носу не падтачыў", — сказаў А.Лукашэнка. У сувязі з гэтым, выдварэньне, напрыклад, членаў Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ, на думку А.Лукашэнка, выкліча толькі непатрэбнае чарговае абвастрэньне адносінаў Беларусі з Захадам.

*12 красавіка* старшыня БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Вінцук Вячорка выступіў з заявай, у якой гаворыцца: "А.Лукашэнка, які з ліпеня 1999 г. ажыцьцяўляе незаконнае, узурпатарскае кіраўніцтва беларускай дзяржавай, 11 красавіка 2000 году заявіў пра планы разьмяшчэньня ў нашай краіне трохсоттысячнай беларуска-расійскай вайсковай групоўкі. Гэта значыць, што ў Беларусь мяркуецца ўвесьці больш як дзьвесьце тысячаў расійскіх войскаў дзеля «супрацьстаяньня Захаду». Гэтая задума — складовая частка плану рэстаўрацыі расійскай імперыі, які спрабуе ажыцьцяўляць Крэмль пры апоры на мінскі марыянеткавы рэжым. Гэтак званая «саюзная дамова», падпісаная з беларускага боку ўзурпатарам і ратыфікаваная нелегітымнай «палатай», напаўняецца злавесным зьместам. Наша Беларусь ператвараецца ў вайсковы плацдарм імперыі, якая зноў спрабуе паказаць зубы цывілізаванаму сьвету. Генацыд чачэнцаў паказвае, што робяць расійскія імперыялісты са свабодалюбнымі народамі. Мы, беларусы, не жадаем такога лёсу. Мы папярэджваем Расію, што ў выпадку рэалізацыі вар'яцкага плану ўводу ў Беларусь расійскіх войскаў незалежніцкія сілы будуць разглядаць гэты крок як акупацыю з усімі наступствамі. Мы зьвяртаемся да дэмакратычных краінаў Еўропы і Амерыкі з заклікам прадухіліць мілітарысцкае вар'яцтва і не дапусьціць зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі".

*11 і 12 красавіка* ў Мінску адбылося пікетаваньне супраць абавязковага разьмеркаваньня студэнтаў ВНУ, арганізаванае «Задзіночаньнем беларускіх студэнтаў». Акцыі прайшлі на прасьпекце Дзяржынскага, каля галоўнага корпусу мед-інстытуту. У іх узялі ўдзел да 20 маладых людзей, якія трымалі плакаты «STOP — разьмеркаваньню!», «Мая праца — гэта мой выбар»,




*Беларускія прадпрымальнікі працягваюць змаганьне за свае правы. На плошчы Бангалор прайшоў мітынг супраць палітыкі А.Лукашэнкі ў адносінах да прыватных прадпрымальнікаў. Арганізаваў яго Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў на чале з Валерыем Леванеўскім.*

«Студэнт — у зону!», «Кошт майго навучаньня — гэта падаткі маіх бацькоў», «Саўгас «Гарадзец» чакае цябе. Пачні кар'еру!» і іншыя. ЗБС накіравала ў розныя ўрадавыя ўстановы больш за 10 лістоў з патрабаваньнем спыніць практыку абавязковага разьмеркаваньня, асабліва ў зоны радыеактыўнага забруджаньня. На некаторыя звароты ўжо прыйшлі адказы, якія дакладней варта назваць адпіскамі, настолькі яны неканкрэтныя. Але «Задзіночаньне беларускіх студэнтаў» будзе і надалей дамагацца перагляду абавязковага разьмеркаваньня, якое парушае правы студэнтаў. Тым болей, што гэтую практыку ў некаторых дзяржаўных ВНУ пачалі прымяняць нават да студэнтаў платных аддзяленьняў.

*12 красавіка* на плошчу Незалежнасьці ў Мінску з нацыянальным сьцягам у руках выйшла Ніна Багінская. За руку яна трымала свайго ўнука. Міліцыянты затрымалі яе і даставілі ў пастарунак, дзе Багінская заявіла, што такім чынам жадала нагадаць грамадзянам Беларусі пра зьбіцьцё дэпутатаў апазіцыі БНФ у красавіку 1995 года ў зале паседжаньняў Вярхоўнага Савету па загадзе Лукашэнкі. Міліцыянты склалі на Багінскую пратакол аб парушэньні закону аб шэсьцях і мітынгах, і ў хуткім часе яе будуць судзіць. Ці будуць судзіць яе маленькага ўнука, пакуль невядома.

*12 красавіка* суд г. Баранавічы (Брэсцкая вобласьць) разгледзеў у адкрытым судовым паседжаньні грамадзянскую справу па скарзе Віктара Мезяка на неправамоцныя дзеяньні старшыні Баранавіцкага гарвыканкаму ў сувязі з пераносам месца правядзеньня пікету. У скарзе заяўляльнік прасіў прызнаць неправамоцным рашэньне Баранавіцкага гарвыканкаму ад 14 сакавіка 2000 г. аб пераносе правядзеньня пікету з 15 сакавіка на 22 сакавіка 2000 г., абавязаць гарвыканкам праз газеты "Интекс-пресс", "Шаг" і "Наш край" прынесьці яму, як арганізатару пікету прабачэньне за зрыў мерапрыемства. Суд прызнаў дзеяньні старшыні гарвыканкаму неправамоцнымі і зыскаў на карысьць В.Мезяка 11 000 рублёў і зварот дзяржпошліны. У астатнім скаргу В.Мезяка пакінулі без задавальненьня. У працэсе прымалі ўдзел сябры Баранавіцкай філіі Праваабарончага Цэнтру "Вясна". Пікантнасьць справы ў тым, што адказчыкам выступаў былы старшыня Баранавіцкага гарвыканкаму Міхаіл Паўлаў, які "пайшоў на павышэньне" і цяпер зьяўляецца старшынёй Мінскага гарвыканкаму. Першай справай новага старшыні ў Мінску стаў якраз разгон акцыі апазіцыі 25 сакавіка.

*13 красавіка* беларускія ўлады прынялі рашэньне аб дэпартацыі польскага ксяндза Зьбігнева Кароляка, які працуе пробашчам каталіцкай парафіі ў Брэсьце. Яму загадана да 22 гадзін 14 красавіка пакінуць межы Беларусі. На сьвятара таксама накладзены штраф у 20 мінімальных заробкаў. Ксёндз Зьбігнеў Кароляк ужо больш за дзесяць гадоў зьяўляецца пробашчам касьцёлу Ўзьнясеньня Крыжа у Брэсьце. Але 18 сакавіка ён быў затрыманы міліцыянтамі проста ў храме і адвезены ў пастарунак. Там на яго склалі пратакол аб парушэньні пашпартнага рэжыму. Гэтак сталася таму, што на працягу апошніх гадоў мясцовыя ўлады адмаўляюцца даць дазвол сьвятару на працяг працы ў брэсцкай парафіі і, адпаведна, не рэгіструюць знаходжаньне Зьбігнева Кароляка на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Напярэдадні высылкі вернікі мясцовай парафіі атрымалі адказ на свае звароты да "вертыкалі" з просьбай зарэгістраваць іх духоўнага пастыра. У адказе намесьнік старшыні аблвыканкаму Валеры Захарчанка піша, што ксёндз Каролік за час знаходжаньня ў Брэсьце неаднаразова парушаў свае паўнамоцтвы, прадугледжаныя становішчам іншаземнага сьвятара. Сярод гэтых парушэньняў Захарчанка згадвае спробы падмяніць дзейнасьць касьцёльнага камітэту, звароты наўпрост у органы дзяржаўнага кіраваньня, умяшаньне ў дзейнасьць Саюзу палякаў і правядзеньне рэлігійных дзеяньняў з несанкцыянаваным прыцягненьнем паломнікаў з-за мяжы... Высновы, зробленыя чыноўнікам, узрушылі ўсю парафію. Вернікі катэгарычна не пагаджаюцца з тым, што Кароляк падмяняў у сваёй дзейнасьці касьцёльны савет. Яны па-ранейшаму гатовыя рашуча адстойваць Зьбігнева Кароляка.



*Узбуджаная год таму супраць былога прэм'ер-міністра РБ, а тады кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Міхаіла Чыгіра, крымінальная справа, развальваецца на вачах. Сьледчыя органы за год працы так і не змаглі назьбіраць кампрамату" на былога вышэйшага чыноўніка дзяржавы, які па ўласным жаданьні пайшоў у адстаўку перад нелегітымным рэферэндумам 1996 году па прычыне нязгоды з палітыкай А.Лукашэнкі. Судовы працэс працягваецца, але як засьведчылі на прэс-канферэнцыі адвакаты і сам Міхаіл Чыгір, большасьць папярэдніх абвінавачаньняў ужо зьнятая.*

*На здымку: падчас прэс-канферэнцыі (зьлева-направа) адвакаты Аляксандр Пыльчанка і Гары Паганяйла, Міхаіл Чыгір, грамадзкі абаронца ад ПЦ "Вясна" Барыс Гюнтэр.*

*12 красавіка* заяўку на правядзеньне першага траўня дэманстрацыі і мітынгу падалі ў Мінгарвыканкам старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч і прэзідэнт асацыяцыі прафсаюзаў «БКДП» Віктар Бабаед. Згодна з заяўкай, ў традыцыйна сьвяточны дзень (у гэты раз сьвята ўсіх працоўных выпадае на панядзелак), а дзясятай гадзіне раніцы на сталічным пляцы Якуба Коласа павінна сабрацца каля дваццаці тысячаў чалавек. Адтуль яны шэсьцем пройдуць па праезнай частцы праспекту Скарыны да плошчы Незалежнасьці, дзе з 11.00 да 12.00 адбудзецца мітынг, лозунгамі якога будуць «Свабода, справядлівасьць, салідарнасьць, незалежнасьць». Традыцыйна 1 траўня ў Мінску праводзіцца афіцыйная дэманстрацыя, якая таксама завяршаецца на плошчы Незалежнасьці. У гэтым выпадку арганізатары адмовяцца ад самастойнай дэманстрацыі і далучацца да калонаў працоўных, як гэта было ўжо ў мінулыя гады.

*13 красавіка* мінчанін, сябра БНФ Валянцін Фёдаравіч Баранаў атрымаў пастанову суда г.Салігорску (Мінская вобласьць), дзе паведамлялася, што адміністратыўная вытворчасьць у адносінах да яго была спыненая ў сувязі са сканчэньнем тэрмінаў прыцягненьня да адказнасьці. Міліцыянты спрабавалі абвінаваціць В.Баранава ў тым, што ён 18 лістапада 1999 году арганізаваў несанкцыянаванае шэсьце са сьцягамі і транспарантамі, прысьвечанае Слуцкаму збройнаму чыну — антыбальшавіцкаму паўстаньню, што адбылося ў 1920 годзе. Аднак пратакол аб адміністратыўным парушэньні быў складзены памылкова, і судзьдзя накіравала пратакол на дапрацоўку. Калі прайшло два месяцы, і пратакол ня быў выпраўлены, судзьдзя Л.І.Астрэйка апраўдала Баранава.

*У пачатку красавіка* ў Сьветлагорску (Гомельская вобласьць) закончыўся суд над расійскім прадпрымальнікам, беларусам па паходжаньні, Анатолем Сілівончыкам, які ўлетку мінулага году кіраваў "захопам" вёскі Мікалаеўка Сьветлагорскага раёну ваенна-патрыятычным атрадам "Беркут" з расійскага гораду Сургут. А.Сілівончык асуджаны да трох гадоў пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

*У красавіку* Гомельскі абласны суд прыняў рашэньне аб ліквідацыі гомельскай грамадзкай арганізацыі "Саюз беспрацоўных", якая была створаная ў 1992 годзе вядомым у горадзе праваабаронцам Яўгенам Мурашкам. Зыскавую заяву ў суд аб ліквідацыі арганізацыі накіравала ўпраўленьне юстыцыі Гомельскага аблвыканкаму. У якасьці падставы ўказвалася, што "Саюз беспрацоўных" не прайшоў агульнарэспубліканскую перарэгістрацыю. Выступаючы ў судзе Я.Мурашка сказаў, што ў арганізацыі не было сродкаў для аплаты перарэгістрацыі, бо ў склад яе ўваходзяць беспрацоўныя грамадзяне.

# Рай для зьняволеных?

***На апошняй старонцы, на гэтым месцы, рэдакцыя бюлетэню "Права на волю" ад першых нумароў друкавала нататкі тых, хто пабываў у зьняволеньні ў беларускіх турмах і сьледчых ізалятарах — Міколы Качана, Андрэя Мельнікава, Аляксея Шыдлоўскага, Алеся Бяляцкага, Валерыя Шчукіна... Карэспандэнт "Права на волю" Тацяна Сьнітко нядаўна пабывала ў шведзкім сьледчым ізалятары — адпаведніку беларускіх "Акрэсьціна" і "Валадаркі". Праўда, у адрозьненьне ад папярэдніх аўтараў, толькі на экскурсіі. Аднак, мяркуем усё ж, што нашым чытачам будзе цікава параўнаць побыт зьняволеных у беларускіх і шведзкіх турмах. Хай і чыста ўмоўна...***

Падчас перабываньня прадстаўнікоў "Вясны" ў Швецыі ў нас была магчымасьць пабываць у сьледчым ізалятары Стакгольму. Шведзкая сьледчая турма Кронабэргсхектэт па сваім статусе – не зусім тое ж самае, што мінская УЖ-15/ІЗ-1 (іншымі словамі – "Валадарка"). Стакгольмскі СІЗА – гэта дзесяціпавярховы будынак, які з-за сваёй вонкавай фешэнебельнасьці вельмі складана адразу прыняць за месца ўтрыманьня пад вартай. Побач з гэтым "гатэлем" ці "шпіталем" — нейкі, па нашых мерках, архітэктурны помнік. Пры бліжэйшым разглядзе заўважаеш, што побач са шпілямі над дахам "помнік архітэктуры" мае краты на вокнах – гэта гарадзкое ўпраўленьне стакгольмскай паліцыі.

Адразу згадваецца Мінск, дзе сьледчая турма – Пішчалаўскі замак – таксама зьяўляецца архітэктурнай каштоўнасьцю (але гарадзкая міліцэйская ўправа да трохзоркавага гатэлю не падобная).

Вакол будынка – плот (толькі не каменны, а высокі сеткавы) і вялікая брама. На іх падабенства Кронабергсхектэта з "Валадаркаю" сканчаецца.

Хол стакгольмскага СІЗА нічым не нагадвае калідор турмы з нярвовымі, стомленымі, трывожнымі людзьмі ў чарзе на перадачы, спатканьні, на прыём да начальства ўстановы. Служачыя турмы сустракаюць нас такімі ж усьмешкамі, як гэта робяць дзяўчаты ў рэцэпцыі гатэлю. Праз хвіліну мы падымаемся ў ліфце на дзевяты паверх. Тут разьмешчанае сьпецыяльнае аддзяленьне ізалятару для прыёму наведвальнікаў адміністрацыяй.


У турэмнай сталоўцы.

Матс Ландэбрынк, намесьнік начальніка турмы па бясьпецы, адказвае на любое нашае пытаньне і некаторым зь іх (як мы пабачым далей) – зьдзіўляецца.

Потым ён доўга водзіць нас па карпусах і паверхах Кронабэрсхектэта.

Але – пра ўсё па парадку.

Сьледчая турма Кронабэрсхектэт адчыненая ў 1975 годзе. Тут працуе каля трохсот чалавек пэрсаналу, з іх 200 – у дзённы час сутак. Уначы ж дзяжураць толькі 16 супрацоўнікаў. Акрамя штатных супрацоўнікаў – ахоўнікаў, урачоў, цырульнікаў, псіхолагаў, са зьняволенымі працуюць добраахвотнікі, часьцей за ўсё гэта супрацоўнікі Чырвонага Крыжа. Наведваюць ізалятар сьвятары трох рэлігійных канфесіяў: праваслаўнай і каталіцкай хрысьціянскіх і мусульманскай (гэта пры тым, што большасьць шведаў па веравызнаньні пратэстанты). У краіне існуе нават арганізацыя сьвятароў, назву якой прыкладна можна перакласьці як "Таварыства духоўнай дапамогі зьняволеным". Як распавёў нам прадстаўнік турэмнай адміністрацыі, усяго ў сьледчым ізалятары 300 камераў, а за год праз іх праходзіць 6-7 тысячаў чалавек. І толькі прыблізна палова з іх (ад 3 да 4 тысячаў) – людзі, якія падазраюцца ва ўчыненьні злачынстваў, г.зн. падсьледныя. Усе астатнія – толькі затрыманыя, якіх хутка адпускаюць альбо пераводзяць у іншыя ўстановы – напрыклад, шпіталі. Часта сюды трапляюць і п'яныя, і наркаманы пасьля прыняцьця адпаведнага "зельля", і калі першых вязуць у сьпецаддзел СІЗА, аналагічны беларускаму выцьвярэзьніку, дык другія накіроўваюцца на лячэньне. Праўда, і моцна п'яных таксама адразу прывозяць у бальніцу. Тое самае тычыцца і падабраных паліцыяй на вуліцах псіхічна хворых людзей. У той жа час Кронабэргсхектэт – транзітны пункт для асуджаных грамадзянаў, якія перасоўваюцца па этапе з установы ва ўстанову. Такім чынам, установа, дзе мы пабывалі, сумяшчае ў сабе тры функцыі: сьледчага ізалятару, прыёмніка-разьмеркавальніку і выцьвярэзьніку.


Гарадзкое ўпраўленьне стакгольмскай паліцыі.

Праваахоўныя органы Швецыі не перапаўняюць сьледчыя турмы, хаваючы за краты кожнага падсьледнага. Рашэньне аб зьняволеньні звычайна прымае пракурор, і ён робіць гэта ў выпадку, калі, на ягоную думку, чалавек, які падазраецца ў злачынстве, можа на волі зьнішчыць доказы. Усе затрыманыя маюць адваката. Часьцей за ўсё чалавек знаходзіцца ў СІЗА не больш за месяц – менавіта такі тэрмін сьледзтва, пасьля адбываецца судовае разьбіральніцтва. Але бываюць і выключныя выпадкі. Напрыклад, некалькі гадоў таму сьледзтва па адной крымінальнай справе цягнулася каля трох гадоў. Па словах спадара Ландэбрынка, гэта была справа аб некалькіх забойствах замежнікаў, учыненых мясцовым фашыстам. Пры гэтым сам злачынца аказаўся не шведам, а эмігрантам з адной заходняй краіны.

*(Працяг будзе).*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna@spring96.org www.spring96.org

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*